


# НАША СЛОВА

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

Штотыднёвая газета | № 46 (56) | 31 снежня 1991 г. | Кошт 10 кап. (Па падпісцы — 5 кам.)

## З надыходзячым Новым годам, шаноўныя спадары!

## Паступ тыдня

*ДАСЯГНУТА ДАМОЎЛЕНАСЦЬ, ШТО Ў 1992—1993 ГАДАХ НІ РАСІЯ, НІ УКРАІНА, НІ БЕЛАРУСЬ НЕ БУДУЦЬ УВОДЗІЦЬ СВАІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ВАЛЮТ. Мяркуецца спачатку для нашай рэспублікі надрукаваць грошы з асобымі распазнавальнымі адзнакамі і толькі затым — увесці ўласную валюту.*

ПРАФСАЮЗЫ БЕЛАРУСІ ПАПЯРЭДЗІЛІ ЎРАД АБ МАГЧЫМЫМ САЦЫЯЛЬНЫМ УЗРЫВЕ Ў НАСТУПНЫМ ГОДЗЕ. Гэта вынікае перш за ўсё з-за няўвагі да інтарэсаў працоўных. Так, абяцаецца павышэнне зарплаты ў два разы. А купоны разлічаны толькі на 60 працэнтаў ад яе...

*...БЕЛЫ АБРУС на стале. Разбіты гаршчок у куце. Смачны пах куцці на ўсю хату. І ўрачыстыя поклічы бацькі: «Каляда, Каляда! Ідзі да нас куццю есці!..» Калі гэта было апошні раз? Даўно, я памятаю, недзе пасля вайны. Затым — гарадское жыццё, святкаванні толькі пад урачыстыя прамовы правадыроў. І вось — нечаканасць. Для Каляды гасцінна расчыніліся дзверы гарадскіх кватэр — без аглядкі гаспадароў на нечае пільнае вока... Учора — каталікоў, а заўтра — і праваслаўных.*

*Як многа перамянілася за гэтыя гады! Палёты ў космас, ядзерныя выбухі, чарнобыльскі пажар... А куцця тая ж самая — як і ў пасляваенныя гады, а, можа, і тысячагоддзе назад. Ці нават бядней: на магазінных паліцах — нічога, акрамя панцаку. І падарункі ўрада не сказаць каб калядныя,— адпушчэнне цэн. Ды ўжо такое свята: як ні цяжка, а трэба клікаць Каляду. Каб не акалець самому і ўратаваць жывёлу, ураджай. Гэта спрадвечная рыса народа — не схіляць галавы. Салому еш, а хвост дзяржы дудкай. Так што і заўтра паклічам як мага бадзёра:*

*— Каляда, Каляда! Ідзі да нас куццю есці!*

*А. СІЛЯНКОЎ.*

## Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»!



Сустракаючы першы вольны ў жыцці Беларусі Новы год, шчыра жадаю ўсім чытачам, а таксама супрацоўнікам рэдакцыі шчасця, поспехаў і плёну!

З павагай

Васіль СУПРУН.

## У навагоднюю ноч

Навагодняя ноч заглядае ў замерзлыя вокны,
З хаты ў хату нясе пажаданні, іскрынкі надзей
І бясконцую ніць спадзяванняў з нябачных валокнаў
З году ў год
праз жыццё ў нашых сэрцах прадзе і прадзе.
І пакуль гэтай ніткі надзейная струнка прадзецца,
А ў сэрцах агеньчык жадання і сілы гарыць,
Будзем несці дабро, хоць нялёгка сягоння жывецца,
Будзем помніць, што жыць — гэта шчасце і радасць тварыць.
А цяпер — у прыход навагодняй святочнае ночы —
Пажадайма сваім і далёкім, і блізкім сябрам:
Новы год няхай сем'ям іх моцную дружбу прыносіць,
І ўсім ім пажадайма дастатку, удач і дабра!

**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ**, вы трымаеце ў руках апошні сёлета нумар «Нашага слова». Да сустрэчы ў наступным годзе з тымі, хто застаўся верным газеце! Дарэчы, «Наша слова» будзе выходзіць падвоеным аб'ёмам і таму зможа даваць сваім чатачам значна больш разнастайных звестак пра культурнае жыццё Беларусі, часцей публікаваць літаратурныя творы, выкарыстоўваць ілюстрацыі і г. д.

Напамінаем тым, хто па нейкіх прычынах не падпісаўся на «Наша слова», але захоча гэта зрабіць. Падпіску можна аформіць з кожнага наступнага месяца. Наш індэкс 63865.




## БЕЛАРУСКІ НЕ ТОЛЬКІ ПА МОВЕ

Леташні год знамянальны і тым, што адноўлена даўняя традыцыя па стварэнні нацыянальных календароў на беларускай мове. Выдавецтва БелСЭ выпусціла «Беларускі каляндар» (рэдактар-складальнік Бугаёў В. С.). У ім змешчаны звесткі, галоўным чынам, з галіны гісторыі, культуры, літаратуры, мастацтва, этнаграфіі, фальклору. Другая яго назва — «Каляндар Багдановіча» — настолькі ён багаты на матэрыялы пра нашага юбіляра, славутага паэта Беларусі. Быў таксама выдадзены адрыўны каляндар выдавецтвам «Беларусь».

Знаўцам беларускіх календароў добра вядомы календары, выдадзеныя «Нашай нівай» на 1910, 1911 гады. У 1925—39 г.г. календары выдаваліся і ў Вільні. Заходнебеларускую традыцыю працягвае Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы.

На 1992 год выйшаў у свет адрыўны каляндар «Родны край» (наклад 100 тысяч паасобнікаў, рэдактары-складальнікі Алёна Законнікава і Валянціна Балвановіч). Ён беларускі не толькі па мове, але і па сутнасці. Студзеньскія лісточкі календара знаёмяць нас з арыгінальнай і даволі цікавай інфармацыяй. Да прыкладу, няшмат вядома пра каталіцкага святара Адама Станкевіча. А між іншым, яго пяру належаць два дзесяткі кніг: пра Вітаўта Вялікага, Скарыну, Багрыма, Каліноўскага, Багушэвіча, Эпімах-Шыпілу, Сваяка, Забэйду-Суміцкага...

«Родны край» у аднолькавай ступені будзе карысны школьным настаўнікам і хатнім гаспадыням. Матэрыялы па гісторыі беларускай культуры суседнічаюць з кулінарнымі рэцэптамі. Ёсць у календары рубрыка «Кладоўка здароўя». Яна знаёміць нас з загадкамі народнай медыцыны. «Кладоўку здароўя» дапаўняюць «Народны лячэбнік» і «Парады касметолага».

Многія старонкі календара, калі іх сабраць разам, складаюць невялічкую энцыклапедыю для аматараў роднага слова. І не толькі таму, што «Родны край» друкуе ўрыўкі з твораў мастацкай літаратуры. У календары пад рубрыкай «З гісторыі слоў», «Чаму мы так гаворым» пададзены многія таямніцы звычайных на першы погляд слоў.

Не спяшайцеся адрываць лісткі календара. А як пройдзе год — пакіньце «Родны край» у хатняй бібліятэцы. Не пашкадуеце.

А. К.

 

# ВЫБРАНЕЦКАЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА ПАВЕДАМЛЯЕ

**19 снежня ў Беларускім тэхналагічным інстытуце прайшла вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Шчырым словам пра Максіма вечар адкрылаі паэтка Валянціна Аколава. Выступіў і супрацоўнік філіі літаратурнага музея М. Багдановіча Сяргей Вітушка. Цікавую праграму падрыхтаваў фальклорны калектыў «Рой». Пасля вечарыны прайшоў аўкцыён і віктарына. А моладзь уволю патанцычыла і паспявала.**

* * *

**У фае Белдзяржуніверсітэта «истинно русские люди», як яны самі сябе называюць, гандлююць газетай «Память». Кіраўніцтва універсітэта не звяртае на гэта ўвагі. Аднак 17 снежня незнаёмы хлопец запрапанаваў саматужным гандлярам канчаць сваю працу, але тыя не паслухалі яго і засталіся з ашмоткамі макулатуры. Нам удалося высветліць, што гэта быў сябра Задзіночання Беларускіх Студэнтаў. У прыватнай размове ён паведаміў, што сябры ЗБС не дапусцяць распаўсюджвання на Беларусі выданняў, якія ганьбяць нацыянальны гонар беларусаў.**

* * *

**29 і 30 лістапада ў менскім Доме літаратара адбылася ўстаноўчая канферэнцыя фалькларыстаў, на якой была створана Асацыяцыя Фалькларыстаў Беларусі (АФБ). На канферэнцыі быў зацверджаны Статут АФБ, прыняты рэзалюцыі, абраны кіруючыя органы і старшыні дзевяці камісій. Прэзідэнтам Асацыяцыі стаў спадар Васіль Ліцвінка, загадчык Навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі АН Беларусі, віцэ-прэзідэнтамі абралі спадара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, і спадара Тадэвуша Стружэцкага, начальніка ўпраўлення культустаноў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Праведзены выбары членаў рады АФБ. На думку ініцыятараў канферэнцыі Асацыяцыя павінна аб'яднаць носьбітаў, выканаўцаў, інтэрпрэтатараў і прыхільнікаў беларускага фальклору з мэтай яго адраджэння, развіцця і прапаганды.**

**АФБ у сваёй дзейнасці плануе:**

**— стварэнне адзінага цэнтра збірання, выдання і захавання фальклору;**

**— вядзенне рэгулярнай мэтанакіраванай падрыхтоўкі да святкавання беларускіх народных свят, радзін, вяселляў;**

**— арганізацыю мэтавай падрыхтоўкі кадраў фалькларыстаў вышэйшай кваліфікацыі і інш.**

**Мяркуецца выдаваць часопіс «Фальклор». У Менску ў 1994 годзе пройдзе Міжнародны фестываль фальклору, і сябры АФБ маюць намер прыняць самы непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы да яго.**

**Прэзідэнт АФБ спадар Ліцвінка ў гутарцы з карэспандэнтам «Выбранецкай інфармацыйнай службы» А. Вашкевічам сказаў: «У фальклоры закладзена нацыянальная самабытнасць нашага народа. Беларусы ці не адзіны славянскі народ, які захаваў паганскую абрадавасць большасці свят, якія, па сутнасці, з'яўляюцца земляробчымі і святкуюцца па сонечным календары. Таму трэба весці барацьбу супраць русіфікаваных форм культуры, і гэта тычыцца не толькі фальклору. Варта адзначыць і такі аспект, як пераадоленне нацыянальных меж паміж прадстаўнікамі розных галін фалькларыстыкі — гэта навукоўцы і практыкі: славеснікі, музыказнаўцы і інш. Трэба пераадолець уніфікацыю фальклору, бо ёсць блытаніна з выкарыстаннем касцюмаў у абрадах. У галіне адукацыі назіраецца абыякавае стаўленне да вывучэння беларускай нацыянальнай культуры. На гэты час для нас склалася спрыяльнае становішча. Яго трэба выкарыстаць, каб адрадзіць фальклор. Асацыяцыя з'яўляецца не кіруючай арганізацыяй, а менавіта каардынуючай».**

* * *

**У Санкт-Пецярбурзе 30 лістапада адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю Максіма Багдановіча. На вечарыну прыйшлі сябры Таварыства беларускай культуры і госці з віцебскага клуба «Узгор'е». Спадар Мікола Нікалаеў прачытаў даклад на тэму «Багдановіч і старадрукі». Ігар Цішкін і Людміла Хмяльніцкая, сябры «Узгор'я», расказалі пра дзейнасць свайго клуба. Сярод прысутных былі сабраны грошы на крыж беларускім пакутнікам, якія былі расстраляны ў гады рэпрэсій на Левашоўскай пустыні — «Ленінградскіх Курапатах».**

* * *

**8 снежня ў актавай зале Аршанскага гарвыканкама адбылася сустрэча аршанцаў са старшынёй Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, доктарам гістарычных навук М. Ткачовым. У сустрэчы прынялі ўдзел дэпутаты ВС Рэспублікі М. Крыжаноўскі і В. Радамысльскі. Адбылася змястоўная гутарка пра мэты і задачы новай партыі беларускіх сацыял-дэмакратаў.**

* * *

**15 снежня ў Вільні адбыўся летувіска-беларуска-латышскі канцэрт, прымеркаваны да Каляд. Выступілі беларускі гурт «Голас», латышскі спявак Андрыс Мігуліс, які выканаў калядныя песні пад акампанемент старажытнага латышскага інструмента *кокле* (накшталт гусляў), а таксама летувіскі музычны гурт, назву якога можна перакласці як «Камянны шлях па дрыгве». Прысутным была дадзена магчымасць параўнаць калядныя традыцыі народаў-суседзяў — латышоў, жмудзінаў і літвінаў.**

* * *

**13 снежня ў Віленскім педагагічным інстытуце адбылася сяброўская сустрэча выкладчыкаў і студэнтаў кафедры беларускай мовы і літаратуры з гасцямі з Беларусі. Ва ўтульнай аўдыторыі пры традыцыйнай гарбаце і запаленых свечках моладзь ушанавала памяць паэта Максіма Багдановіча, ягоны 100-гадовы юбілей. Студэнты і многія з прысутных чыталі вершы паэта, вялі нязмушаную гаворку пра яго жыццё і значэнне для беларускай літаратуры. Асабліва прыемным для моладзі быў удзел у вечары спявачкі Касі Камоцкай, якая спецыяльна прыехала з Менску. Яна спявала песні пад гітару, музыку для якіх складае сама. Прысутнічала і паэтка Тацяна Сапач, на вершы якой складзены шматлікія песні Касі. Моладзь была задаволена сустрэчай і доўга не хацела адпускаць ад сябе сваю госцю з Беларусі.**

Лявон ЛУЦКЕВІЧ.

* * *

**«Вышэйшая школа» выдала «Русско-белорусский разговорник» (укладальнік А. Е. Міхневіч) накладам 150 тысяч паасобнікаў.**

* * *

**Як паведаміла аршанская газета «Ленінскі прызыў» (№ 122), помнікі Леніну ў горадзе, выкананыя на нізкім мастацкім узроўні, будуць дэманціраваны і ўстаноўлены ў калгасах Аршанскага раёна.**

Падрыхтавалі
Т. КАРОТЧАНКАВА,
А. ВАШКЕВІЧ
і А. ШУТАЎ.


МЕНСКІ ВЕСНІК
БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ
ГРАМАДА — ЗА САЦЫЯЛЬНУЮ ДЭМАКРАТЫЮ
НА ДЗЯДЫ — СА СЦЯГАМ
Аддайце зямельку тым, каму яна родная
МЫ-МЕНЧУКІ..
За дваццаць пяць

# ГРАМАДА БАРОНІЦЬ ДЭМАКРАТЫЮ

Менская гарадская філія Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады займела сваё выданне — «Менскі веснік БСДГ». «Менскі веснік» будзе, спадзяёмся, дастаткова поўна і праўдзіва адлюстроўваць не толькі палітычнае жыццё партыі, але і тыя падзеі, якімі жыве, клопаты, якімі рупіцца спадарства сталіцы Беларусі» — гаворыць ва ўступным слове старшыня рады Менскай гарадской філіі БСДГ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў.

Газета знаёміць чытачоў з артыкуламі Максіма Грэка «Мы — менчукі...», Пятра Васілеўскага «Культура і жыццё», Якуба Якубоўскага «Аддайце зямельку тым, каму яна родная». Друкуюцца ў «Менскім весніку» «Зварот рады Менскай філіі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады да актывістаў прафсаюзнага руху, членаў прафсаюзных арганізацый, усіх грамадзян Беларусі», а таксама «Заява выканкама Цэнтральнай Рады БСДГ па праблеме раздзяржаўлення і прыватызацыі».

Усіх, каго зацікавіў «Менскі веснік», запрашаюць на Румянцава, 13. Менавіта тут, у Цэнтральнай Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны, можна і набыць газету. Каштуе яна дваццаць пяць капеек.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# Аб пасяджэнні Міжнароднага камітэта беларусістаў

## КАМУНІКАТ

**9 снежня 1991 г. адбылося пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў, у якім прынялі ўдзел вучоныя і перакладчыкі з Аўстрыі, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны і Швейцарыі. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі вынікі дзейнасці ў 1991 г. і планы на 1992 г. У ліку добрых спраў беларусістаў — чынны ўдзел у міжнародных канферэнцыях у Любліне і Гародні, у арганізацыі Міжнароднай школы беларусістаў, стогадовым юбілеі Максіма Багдановіча ў Менску, арганізацыя навуковай канферэнцыі «Багдановіч і Літва» ў Вільнюсе. Пытанні беларускай філалогіі разглядаліся ў Зальцбургу (Аўстрыя). Сябрам асацыяцыі разасланы спісы кніг, якія можна будзе заказаць у 1992 г. Нямецкімі беларусістамі праведзены калоквіум з удзелам беларускіх пісьменнікаў і рыхтуецца Тыдзень беларускай літаратуры ў Берліне. У Празе рыхтуюцца да друку зборнік з прац чэшскіх славістаў у гонар Ф. Скарыны. Новыя пераклады паэзіі М. Багдановіча зроблены ўкраінскімі і чувашскімі беларусістамі.**

**У планах на 1992 год — актыўны ўдзел у калоквіуме, прысвечаным 110 гадавінам Янкі Купалы і Якуба Коласа (ён будзе праведзены ў верасні ў Менску як падсумаванне працы Міжнароднай школы беларусістаў), у канферэнцыях «Рым-III» (Камянец-Падольскі) і «Гісторыя і рэлігія» (Гародня), арганізацыя канферэнцыі «Беларусы ў Пецярбургу» (Пецярбург, люты), чатанняў пра беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне, прысвечаных 100-годдзю З. Верас (Вільнюс, верасень) і інш. Мяркуецца распачаць выдавецкую серыю «Свет пра Беларусь».**

**Удзельнікі пасяджэння зацвердзілі рэдкалегію штогодніка «Беларусіка», заснавалі выдавецкую групу «Беларуская спадчына» (на чале з С. Жынкінай), прынялі іншыя арганізацыйныя рашэнні. Была выказана прапанова, каб адлічэнні ад сяброўскіх складак у МАБ пакуль што (да адкрыцця іхных рахункаў) захоўваліся ў нацыянальных і рэгіянальных асацыяцыях і пярвічных суполках (у Беларусі).**

# Няхай бы стала войска беларускім...

**У Доме літаратара прайшла прэс-канферэнцыя кіраўніцтва Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Удзел у гаворцы з журналістамі бралі старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Станкевіч, члены Каардынацыйнай Рады БЗВ падпалкоўнік Мікалай Бірукоў і Уладзімір Савянок, старшыня суполкі БЗВ у Печынскім гарнізоне маёр Курбан Гельдыеў, член БЗВ, народны дэпутат РБ старшы лейтэнант запасу Алег Трусаў. Госцем прэс-канферэнцыі быў і начальнік прэс-цэнтра Беларускай ваеннай акругі палкоўнік Уладзімір Чэкаў.**

Адзначыўшы на пачатку гаворкі, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — незалежны патрыятычны грамадскі рух, Мікола Статкевіч падрабязна пазнаёміў прысутных з сённяшняй сітуацыяй у БВА. І хаця ўрадавыя пастановы скіраваны на стварэнне нацыянальнага войска, першыя крокі вельмі і вельмі марудныя. А сітуацыя ў краіне такая, што трэба спяшацца. Прагнозы палітыкаў і сацыёлагаў не выключаюць магчымасці сацыяльна-эканамічнага, а, магчыма, і палітычнага выбуху. Найбольшую небяспеку ўяўляе ў гэтым плане Расія. Калі выбух адбудзецца — хаос пераносіцца і на Беларусь. Ва ўмовах, калі войска кіруецца загадамі з Масквы, трэба нешта тэрмінова рабіць.

Дык на што здольна БЗВ? Якія ў яго адносіны з Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь? Ці супрацоўнічае БЗВ з камандаваннем акругі? Што робіць БЗВ дзеля патрыятычнага выхавання моладзі? Гэтыя і шмат якія іншыя пытанні цікавілі журналістаў.

Кіраўніцтва БЗВ і народны дэпутат Алег Трусаў, асвятляючы сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя праблемы, не абышлі і пытанні духоўнага адраджэння беларускіх вайскоўцаў.

— Трэба зрабіць усё магчымае, — сказаў Алег Трусаў, — каб нашы землякі, якія служаць па ўсім былым СССР і за яго межамі, на працягу 1992 года вярнуліся на Беларусь. Магчыма, ідучы па шляху прафесіяналізацыі арміі, варта асобныя палкі, батальёны стварыць выключна з афіцэраў. А выхаванне ў войску патрэбна праводзіць выключна ў беларускім накірунку.

Расказваючы пра працу Печынскай суполкі БЗВ, Курбан Гельдыеў адзначыў, што побач з прапагандай ідэі нацыянальнага войска і сацыяльнай абаронай ваеннаслужачых, галоўнае месца займае клопат пра духоўнае адраджэнне. Першыя крокі ўжо зроблены. У гарнізоне дзейнічае суполка ТБМ імя Ф. Скарыны. Вайскоўцы ўрачыста адзначылі стогадовы юбілей М. Багдановіча.

Праз некаторы час месца ў вайсковым страі зоймуць сённяшнія падлеткі. Ці прыйдуць яны з новымі ідэямі?.. На гэтае пытанне паспрабаваў адказаць Мікола Бірукоў:

— БЗВ добра ўсведамляе, што падрыхтоўка да вайсковай службы пачынаецца задоўга да прыняцця прысягі... Таму нас і хвалюе сённяшняя моладзь. Трымаем цесную сувязь з суполкамі «Выбранецкія шыхты» і «Чырвоны Жонд». Імкнёмся зацікавіць нашу моладзь вайсковай гісторыяй Беларусі. Спадзяёмся, што ў гэтым плане нам дапаможа беларускі друк. Што ж да тычыцца ДТСААФ, хаця яно і памяняла сваю назву, яго сутнасць засталася той жа. І без рашучых урадавых захадаў тут нічога, напэўна, не зменіш. З боку камандавання воінскія калектывы ніякай падтрымкі ў вывучэнні беларускай мовы і вайсковай гісторыі Беларусі не адчуваюць.

Па-ранейшаму праводзяцца палітычныя заняткі. Змянілася толькі іх назва — гуманітарная падрыхтоўка. Акцэнт робіцца на гісторыю Айчыны (якой? — зразумела, расійскай!). А «героі» лекцый, гутарак па гуманітарнай падрыхтоўцы — Сувораў, Скобелеў і іншыя.

— Войска, — заўважыў Мікола Статкевіч,— калі яго выхаваць на патрыятычных беларускіх традыцыях, пазбавіцца і многіх заган, як, да прыкладу, «дзедаўшчыны»... Займаецца распрацоўкай Статута гонару беларускага афіцэра падпалкоўнік з Казахстана Станіслаў Суднік.

А тым часам, калі ішла прэс-канферэнцыя БЗВ, у Маскве знаходзіўся на кансультацыях у Міністэрстве абароны СССР наш беларускі вайсковы міністр — генерал-лейтэнант Пётр Чаус. У праграме яго паездкі — сустрэча з прадстаўнікамі суполак БЗВ Масквы і Цверы. Мо там міністра і прымуць у БЗВ? Калі так, то тады і сумнявацца няма чаго, — будуць беларусы мець сваё нацыянальнае войска.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.



 

